ПРАШУ СЛОВА

# Хочацца людзьмі звацца

Не толькі прыкрасць, крыўду выклікае ў душы супастаўленне фактаў. У афіцыйных сродках масавай інфармацыі вычытала: пражытачны мінімум на гэты час складае звыш трох мільёнаў беларускіх "зайцаў" на аднаго чалавека. Ні больш — ні менш. Значыць... Так, я, як і большасць пенсіянераў, паволі ўсё тых жа ўладу маючых сталі ні кім іншым як жабракамі. Нават вызначанага мінімуму не атрымліваем. Не атрымліваем за працу працягласцю ў 30-40 і звыш таго гадоў. Зарабілі!

Выходзіць гэтулькі, як кот наплакаў. Людзі шаноўнага ўзросту яшчэ не мерцвякі. Хочуць не толькі есці. Трэба і грэшнае цела нечым прыкрыць.

А чым яно прыкрыта? Пенсіянера адразу вылічыш у натоўпе: не па адной запаволенай паходцы, старэчай постаці. І па адзенні. Зношаным, выцертым, вылінялым, па абутку таксама. Стоптаным, скрыўленым, дэфармаваным ад працяглага нашэння.

Дзякуй Богу, у каго з пенсіянераў ёсць дзеці, больш-менш забяспечаныя. Падкінуць сёе-тое, паліто ці куртку, а то і боты, туфлі.

Хоць і з роднага пляча, а ўсё ж неданоскі апякаюць, раняць душу. Яны яшчэ раз горкім напамінкам пра старэчую бездапаможнасць, пра незайздросны лес. Пра абкрадзеную старасць. Не дай Божа хадзіць у паліто з чужога пляча, датоптваць боты з чужой нагі, грызці акрайчык хлеба з працягнутай чыёйсьці рукі. Канечне ж, яшчэ горай, калі ты, стары, усімі забыты. А калі яшчэ ты і хворы?

Не памылюся, калі скажу, што амаль ўсе людзі пенсійнага ўзросту нажылі сабе не адну хваробу. Ад наступстваў іх прыходзіцца ратавацца. А як? Зёлкі спажывайце! — раяць цяпер паўсюдна. Так яно ж: лекавыя травы, канечне, падмога. А калі абвастрылася захворванне? Тут адныvмі зёлкамі не абыйсціся. І тэпаюць старыя ў аптэкі...

Уздыхнула цяжка і аўтар гэтых радкоў. Апошнім часам нагадалі аб сабе хранічныя хваробы. Пасля абследвання ў абласным цэнтры прапісалі мне лячэнне. З выкарыстаннем сучасных замежных прэпаратаў. Ужыванне іх толькі на працягу двух тыдняў абыйшлося мне ў 500 тысяч рублёў. Працягнуць курс лячэння стала немагчымым: ці лячыся, ці галоднай хадзі.

Што дзень наступны нам рыхтуе? Пойдзеш у магазін, а там новыя цэннікі. Скажам мясныя, рыбныя вырабы, усе яны амаль па 100 тысяч рублёў і болей. Як гаворыцца, ад варот — паварот. Купіць бы хлеба ды пакет малака ці адыцафіліну. Заплаціць за жытло. Прытрымаць якую капейчыну хоць на самыя-самыя неабходныя лекі.

Так і жывём. А тым часам чыноўнікі розных рангаў жыруюць. Вось і нядаўна пакацілі-паехалі ажно ў Нагана, дзе адбываліся алімпійскія спаборніцтвы. Разам з імі і кіраўнік дзяржавы — Аляксандр Лукашэнка. Хаця з багатых краін, як ЗША, Германіі, Францыі, Фінляндыі, Швецыі і г. д., ніхто не рызыкнуў накіравацца ў дарагакаштуючае падарожжа.

Дзесьці два тыдні праціралі штаны на трыбунах, быццам у краіне няма дзяржаўных спраў, вырашаны ўсе праблемы. А колькі тысяч долараў там прасядзелі! Зразумела, не з іх уласных кішэняў. З нашых жа, вядома. Тут жа папаўзлі ўгору цэны. Трэба ж выяжы аплочваць.

Стогнуць многія. Як і маці шматдзетнай сям'і, якая звярнулася ў рэдакцыю часопіса "Гаспадыня" з просьбай: каб што-небудзь даслалі яе дзецям міласэрныя людзі. У адчаі, роспачы жанчына. Вось бы ў працягнутую руку яе пакласці тыя долары, на якія бавіла час ў Японіі вярхушка беларускай улады.

Шыкаванне, адмоўную рэакцыю многіх выбаршчыкаў і грамадзян Беларусі на паездку ў Японію трэба было нечым згладзіць. Па прыбыцці адтуль у тым жа стылі — чым больш хлусні, тым быццам праўдзівей — паліліся ачмурваючыя словы: маўляў, варта было кіраўніку адлучыцца, як зноў накруцілі-навярцелі: цэны пагналі. І знаёмы голас ракатаў, ракатаў... Абяцаў і абяцаў...

Узрадуемся зноў? Хлеб падаражэў і малачко таксама, лекаў недакупіцца. Хутка год — юбілей, як 50% скідка за аплату жылля, газа, святла адменена... Мы прывыклі хадзіць ў абносках, ля гандлёвых вітрынаў толькі ўдыхаць пахі дарагакаштуючай вэнджаніны, кілбасаў, пасціць не толькі ў пост...

І ўсё ж людзьмі звацца хочацца...

*Н. ЧЫКІТА,*
*г. Івацэвічы.*

ДЗЕЦІ — ІНВАЛІДЫ

# А праблемы засталіся

Абласны семінар, на якім разглядаліся і абмяркоўваліся пытанні навучання дзяцей-інвалідаў, адбыўся на базе Югалінскай спецшколы-інтэрната. Сюды з'ехаліся прадстаўнікі шасці дзіцячых устаноў аналагічнага профілю Брэсцкага, Пінскага, Камянецкага, Драгічынскага раёнаў і Ганцавічаў. Івацэвіцкі раённы аддзел адукацыі накіраваў сюды 18 настаўнікаў, якія праводзяць заняткі з хворымі дзецьмі на даму. Удзельнікі семінару наведалі ўрокі рытмікі, матэматыкі, чытання, гісторыі.

Большасць пытанняў семінару тычылася навучання дзяцей у пачатковых класах. А яшчэ педагогам былі прапанаваны заняткі пазакласнага навучання. Тут і папулярная гульня "Поле цудаў", тэмай якой былі народныя святы і абрады, гульня-віктарына "Шчаслівы выпадак", у цэнтры ўвагі якой былі расліны.

Праходзілі таксама ўрокі з геаграфічным накірункам "Беларусь мая, сінявокая", эканамічным — "Эканоміка ў сям'і ваўкоў" і шэраг іншых.

У заключэнне семінару выхаванцы школы-інтэрната прапанавалі яго ўдзельнікам канцэрт мастацкай самадзейнасці, дзе шырока былі прадстаўлены ў асноўным беларускія народныя песні і танцы. Канешне, выхаванцам і педкалектыву школы-інтэрната проста пашанцавала з выкладчыцай музыкі і спеваў. Аднак і самі выхаванцы тут даволі таленавітыя. Моцнымі апладысментамі былі адзначаны вядучыя канцэрта Аляксей і Руслан.

Семінар закончыўся, але большасць яго пытанняў засталіся адкрытымі. Педагагічны калектыў школы-інтэрната на чале з дырэктарам У. М. Кабровым застаўся сам-насам са сваімі праблемамі. Дый сам дырэктар, атрымоўваючы заробак на ўзроўні дырэктара звычайнай школы, павінен клапаціцца (і робіць гэта) не толькі аб зладжаным навучальным і выхаваўчым працэсе, але і накарміць дзяцей, апрануць і бясконца турбавацца аб іх здароўі. А гэта ні многа, ні мала — 120 хлопчыкаў і дзяўчынак.

Усяго ў нашым раёне зарэгістравана 180 вось такіх хворых дзяцей, якія маюць патрэбу ў накіраванні ў спецшколы-інтэрнаты.

*В. СЯРГЕЕЎ.*

ПАЭТЫЧНЫМ РАДКОМ



# Святло надзеі

*Цяжкая рэчаіснасць — нараджальнасць ніжэй смяротнасці. Дзеці з павялічанай шчытападобнай залозай. Дзеці — інваліды. Якія праблемы могуць быць важнейшымі за гэтую?*

На ўсіх скрыжаваннях
Папярэджваюць,
Што мы
Павінны памерці,
Бо мы —
Беларусы,
Што ў тым
Прагрэс
Гісторыі.
Абрыўкі маёй душы!

Гаворыць Мінск.
Паказвае Мінск.
Застаўкі. Рэплікі. Рэмаркі.
Рэплікі. Рэмаркі. Застаўкі.
Рэмаркі. Застаўкі. Рэплікі.
Учора нудзіла доўга.
Жыць хочацца.
Хочацца жыць.

*Іван ЧЫГРЫН.*

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# ЧАМУ БОРКІ — СУПРАЦЬ ФЕРМЕРА?

І сапраўды, чаму? Калі ж селянін любіць зямлю і ўмее на ёй па-гаспадарску, дбайна працаваць, чаму ж яму не выдзеліць кавалак прыгоднай зямлі. Хай апрацоўвае – арэ, сее, даглядае, збірае ўраджай...

— А ён можа разбагацець, — без роздуму заявіла пажылая баркаўчанка.

— Дык што ж тут такога дрэннага, — гэта ўжо кажа малады мужчына. – То ж не ўкраў, а сваім мазалём зарабіў. Нікому зараз не забаронена...

— А якая нам карысць ад гэтага фермера, — уступае ў размову яшчэ адна вясковая жанчына. – Трактар свой нам соткі абрабіць ўсё роўна не дасць...

— А можа каму і дасць, — сказаў ужо мне староста вёскі Боркі Іван Аляксеевіч Езапчук. – А наконт карысці можна спрачацца. Ясна адно, што фермерства для дзяржавы – справа патрэбная і выгадная...

— Перш за ўсё тая выгада нам патрэбна. А яе, ведаю, не будзе. Дык няхай жыве як раней, як і ўсе ў г... капаецца. Бач, зямелькі захацеў, кулаком надумаўся стаць. Былі ўжо у нас кулакі, — так катэгарычна выказаў свае думкі яшчэ адзін боркавец.

Вось такія разважанні. Цяпер ужо відавочна, што сапраўды дзяржаве выгадна мець фермераў, бо як толькі яны цвёрда становяцца на свае ногі, абзаводзяцца тэхнікай і адчуюць сябе гаспадарамі, то своечасова плацяць падаткі, а лішкі сельгаспрадукцыі прадаюць дзяржаве. Што ж настройвае боркаўцаў супраць фермера і фермерства нагул? А тое, што, зарабіўшы мазалём мільёны і стаўшы больш заможным, чым іншыя, фермер будзе іншым чалавекам, нераўнёю кожнаму вяскоўцу. Тады таму-сяму становіцца чамусьці страшна. Трэба ж быць, як усе. Трэба, маўляў, як пры Саветах, пры развітым сацыялізме: кожнаму па палосцы той зямлі і нічога лішняга. Не хочацца крыўдзіць людзей, але гэтыя разважанні, інакш як рабскімі не назавеш.

Яшчэ нядаўна, калі хтосьці з радавых працаўнікоў дзесьці засяваў лішні кавалачак зямлі і аб гэтым тады даведваліся ў райкаме (а даносчыкаў хапала), то бяды не мінаваць. Па-партыйнай лініі каралі, праз суд спаганялі штрафы. Словам, трымалі ў страху кожнага простага чалавека, але ж толькі не чыноўніка. Тыя заўсёды знаходзіліся ля кармушкі, і ім ўсё было дазволена.

Для чаго ж, напрыклад, тыя ж рабочыя і служачыя саджалі лішні кавалак бульбы? Не для абагачэння, як гэта лічылася савецкай уладай, а каб неяк пракарміць сям'ю, падтрымаць гаспадарку. І гэта не выдумка, а суровая рэчаіснасць, перажытая намі.

За гады свайго панавання камуністы па-сутнасці адбілі ў сялян ахвоту самастойна працаваць на зямлі, і яна была без сапраўднага гаспадара. Таму і не дзіўна, што боркаўцы не толькі насцярожыліся, але некаторыя нават і абурыліся, калі іх аднавясковец вырашыў парушыць савецкую традыцыю і стаць гаспадаром або так званым фермерам.

— А навошта ён нам? — раздавалася недарэчнае пытанне, як быццам фермер – гэта не гаспадар, работнік, а нахлебнік. Вось такая старая, заскарузлая псіхалогія савецкіх часоў.

А яшчэ ж не выветрыліся з памяці ў боркаўцаў перадваенныя і пасляваенныя гады, калі разганялі «кулакоў», забіралі ў іх землі, інвентар, маёмасць, а іх саміх як ворагаў народа, высылалі на Салаўкі, а сялян сілай прымушалі ўступаць у калгасы. А зараз селянін баіцца браць зямлю, бо, як некаторыя прызналіся, калі штосьці зменіцца, і іх могуць залічыць у разрад кулакоў. А што гэта былі раней за кулакі, зразумела кожнаму старажылу. Дый маладыя, праўда, не ўсе, многае ведаюць пра тых кулакоў. У Борках да прыходу Саветаў было пяць сямей, якія мелі зямлі больш, чым іншыя вяскоўцы. Усё гэта, вядома, даставалася нялёгкай працай.

Агаф'я Мікалаеўна Бахур, старажыл вёскі Боркі, з'яўлялася сведкай тых даваенных і пасляваенных падзей. У кулакоў, як называлі бальшавікі заможных гаспадароў, савецкая ўлада забрала ўсё, што магла, але саміх боркаўцаў спярша не чапалі, не высылалі. Гэта пачалося ў пачатку 1940 года. І зноў боркаўскіх кулакоў чамусьці абмінулі, а вывезлі сям'ю лесніка, што служыў у палякаў. У гэтай сям'і і жыла А. М. Бахур.

А пасля вайны, калі ў вёсцы стваралі калгас, то і частку гаспадарчых пабудоў у былых заможнікаў дый у іншых больш забяспечаных боркаўцаў забралі для калгаснай канюшні, склада, кароўніка.

Сёння многія сяляне вераць, што за фермерствам – будучыня. Ва ўсім цывілізаваным свеце яны кормяць людзей. А нашы калгасы ніяк не маглі забяспечыць народ сваім хлебам, і СССР купляў яго ў гнілых капіталістаў. Так было пры Брэжневе, пры тым жа Машэраве, пры Гарбачове, калі адной нагой, як сцвярджалі камуністы, стаялі ў камунізме.

А што ж калектыўныя гаспадаркі? Па афіцыйных звестках на самым высокім узроўні 25 працэнтаў беларускіх калгасаў і саўгасаў банкруты, 15 працэнтаў – нерэнтабельныя. А газета «Звязда» нядаўна паведаміла, што 80 працэнтаў беларускіх калектыўных гаспадарак ужо банкруты.

Што ж тычыцца Івацэвіцкага раёна, то амаль усе гаспадаркі ў даўгах. Толькі за мінулы год крэдыторская запазычанасць склала 180 мільярдаў, запазычанасць за электраэнергію – 24 мільярды рублёў. Сёлета гэтыя даўгі працягваюць расці. А заробак хлебаробаў самы нізкі з ўсіх катэгорый работнікаў і выплачваецца нерэгулярна. І калгаснікі, відаць, гэтым задаволены, у тым ліку і боркаўцы, асабліва пенсіянеры (а іх большасць у Борках). Праўда, ім тыя мізэрныя пенсіі даюць пакуль што своечасова. А гэта старых людзей заспакойвае.

— Нам бы як-небудзь свае соткі абрабіць, — гавораць некаторыя пенсіянеры. – А пра фермерства хай маладзейшыя думаюць. Дый нагул навошта ім гэтыя клопаты...

Што ж, здзіўляцца не прыходзіцца. Бо асколак савецкай улады яшчэ моцна сядзіць у душах боркаўцаў і не толькі іх. Ім сёння, можа, цяжка зразумець, што паявіліся першыя парасткі новага гаспадарання на зямлі, калі чалавек будзе адчуваць сябе гаспадаром і будзе працаваць не па загаду зверху, а па загаду ўласнага сэрца. Калі праца будзе прыносіць і радасць, і задавальненне, і асалоду.

Усё ж і боркаўцы з цягам часу дойдуць да такога разумення. Але ж, я думаю, гэта ўжо будзе новае пакаленне вяскоўцаў, больш адукаванае і незатуманенае старой ідэалогіяй і псіхалогіяй.

І, бадай, самае сумнае ў тым, што многія вяскоўцы не ў стане сур'ёзна ўсведамляць, што жыццё не стаіць на месцы, а ўсё ж, хоць і марудна, а змяняецца, рухаецца наперад. Не ўсе чамусьці гэта заўважаюць, а калі хто і заўважае, то робіць выгляд, быццам нічога не здарылася, маўляў, хай лепей усё будзе па-старому – так спакайней. А ці праўда – спакайней? Гэта ўжо пытанне для тых, хто адважыцца сур'ёзна задумацца.

А на днях у прэсе з'явіўся ўказ беларускага прэзідэнта аб падтрымцы фермерства ў рэспубліцы. Мо ён стане стымулам для больш актыўнай дзейнасці фермераў і ў Івацэвіцкім раёне.

*С. КАЖАДУБ.*

ВАШЕ ПИСЬМО

# Нас мифами питают?

*Уважаемая «Газета для вас»! Я сейчас нахожусь в отпуске по уходу за ребенком до 3-х лет. Естественно, получаю пособие на малыша. Большая половина его уходит на детское питание (грудного молока, к сожалению, нет). Но ребенку нужны и ползуны, и кофточки, и многое другое. Думаю, где взять на это деньги. Тяжело. Но вот однажды включила радио и услышала, как наше государство о детях заботится, все время размеры пособий повышает. Оказывается, если верить той радиопередаче, мы должны и горя не знать, так мы обеспечены. Я же по себе сужу — еле концы с концами свожу. Или я одна такая?*

*Светлана К., г. Ивацевичи.*

Действительно, с 1 января 1998 г. приказом Министерства социальной защиты Республики Беларусь введены новые размеры пособий семьям, имеющим детей. Изменен порядок начисления государственных денежных пособий, выделяемых семьям, воспитывающим детей. Расчет размеров государственных пособий стал производиться не исходя из размера минимальной заработной платы (МЗП), а в зависимости от величины минимального потребительского бюджета (МПБ) семьи из четырех человек. Комментируя нововведения, Елена СКРИГАН, депутат Верховного Совета 13-го созыва, утверждает, что «на первый взгляд, все это является очень прогрессивным, т.к. минимальная зарплата в настоящее время никак не может подняться выше 10% МПБ и давно перестала быть социальным нормативом, а значит, лишена экономического смысла. Но при ближайшем рассмотрении оказывается, что внесенные в закон изменения его не улучшили, а по некоторым параметрам даже ухудшили. Только один пример: пособие по беременности и родам по старому закону выплачивалось в размере 10 МЗП. Это значит, что с 1 сентября прошедшего года женщины могли бы получать за роды 2 млн. руб. По измененному же закону до 21 октября (пока официально не был утвержден новый МПБ) женщины получали за рождение ребенка лишь 1.861.000 руб., т. е. государство на каждом новорожденном сэкономило 140 тыс. руб. С 21 октября пособие составило 2.037.000 руб. Так какой смысл был в таких изменениях?

Кроме того, изменения, внесенные в закон о семейных пособиях, ухудшили положение неработающих женщин, имеющих детей до 3-х лет. Если раньше и работающие, и неработающие мамы получали на малыша до 3-х лет одинаковые суммы, то сейчас неработающие получают лишь 60% от пособия работающих. А ведь уход за ребенком до 3-х лет засчитывается в трудовой стаж, т. е. приравнивается к трудовой деятельности. Пособие для неработающих матерей по уходу за ребенком до 3-х лет составляет сейчас примерно 10 долларов США, а еще в начале 1997 г. оно исчислялось в 13 долларов.

Сегодня ясно одно: положение с детскими пособиями надо срочно поправлять. Возможности для того, чтобы дети, старики и инвалиды не голодали, в Беларуси есть: валовый внутренний продукт в минувшем году вырос аж на 10%. Таковы, если им можно верить, официальные статистические данные. А это значит, что страна может себе позволить улучшение жизни самых социально незащищенных слоев. Ведь демографическая ситуация в Беларуси требует совершенно иных подходов. Или рост валового внутреннего продукта – это миф? Тогда оторвать языки таким политикам...»

# Льготы сохранились

*Уважаемая редакция, хотелось бы у вас уточнить, какие льготы в настоящее время остались у донора, награжденного ранее знаком «Заслуженный донор СССР».*

*Г. КОНОНОВИЧ, г. п. Телеханы.*

В соответствии с Законом Республики Беларусь «О донорстве крови и ее компонентов», доноры, награжденные знаком «Заслуженный донор СССР», пользуются всеми льготами и правами, предоставленными донорам, которые имеют почетный знак «Заслуженный донор Республики Беларусь», а именно:

— внеочередным лечением в государственных органах здравоохранения;

— при выходе на пенсию обслуживаются поликлиниками, к которым они были прикреплены в период работы;

— на первоочередных условиях приобретают по месту работы или учебы льготные путевки для санаторно-курортного лечения;

— приобретают лекарства с 50-процентной скидкой от их стоимости;

— имеют ежегодный оплачиваемый отпуск в удобное время;

— могут по льготной очереди приобретать билеты на железнодорожный, воздушный, водный и автомобильный транспорт;

— имеют возможность внеочередного бесплатного зубопротезирования из недрагоценных металлов;

— пенсия по достижении пенсионного возраста повышается на 10%.

# Обеспеченные патриоты

*Прочитал в «Народной воле» статью «Наполеончик Сева» — о первом секретаре Белорусского патриотического Союза молодежи (БПСМ). Не знаю, насколько все рассказанное в ней соответствует действительности, но статья поражает. И вопросы вызывает. Зачем, в самом деле, еще создавать какие-то союзы, если в республике уже существует Белорусский Союз молодежи? Или денег у нас много, некуда их тратить? Кстати, сколько стоит Беларуси этот БПСМ?*

*В. ВОЙТОВ, г. Береза.*

В бюджете на текущий год только на деятельность Белорусского патриотического союза молодежи (БПСМ) предусмотрена довольно круглая сумма – 110 млрд. руб. Это помимо того, что патриотическому союзу передается собственность – помещения с необходимым техническим оснащением, причем расходы по их содержанию ложатся на плечи местных бюджетов. Кроме того, БПСМ был освобожден от уплаты ряда налогов – подоходного, на недвижимость и землю, налог на добавочную стоимость (НДС) с денежных средств, полученных в результате хозяйственной деятельности.

ИЗ АЛЬБОМА НЕСЕМЕЙНОГО




# Для дома, для семьи, для души...

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ...

## Жанчыны ў вайсковай форме

У гэты час на розных пасадах у беларускім войску праходзяць службу каля чатырох тысяч жанчын, што складае прыкладна 5 працэнтаў ад агульнай колькасці Узброеных Сіл рэспублікі.

Як паведамілі ў прэс-службе ваеннага ведамства, асноўную частку жанчын-ваеннаслужачых складаюць кантрактніцы, аднак нямала ў іх ліку прапаршчыкаў і афіцэраў — больш за 600 і 60 чалавек адпаведна. Самае высокае званне — "падпалкоўнік" — сярод жанчын-ваеннаслужачых на працягу апошніх некалькіх гадоў было ў Надзеі Гумянкі, якая служыць у адным з ваенкаматаў Брэста. Аднак зусім нядаўна званне падпалкоўніка атрымала намеснік Лідскага аб'яднання гарадскога ваеннага камісара Надзея Муліца.

ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

**Солод-целитель.** Проросшее зерно применяется не только в пивоварении. Оно употребляется в пищу с целью оздоровления организма. В некоторых случаях эффект получается поразительный, а иногда и просто невероятный. Восстанавливаются цвет и густота волосяного покрова, острота зрения, координация движений, укрепляются зубы. Известны случаи, когда медикаментозное лечение серьезных заболеваний хронического характера (туберкулез бронхиальных узлов, воспаление легких, язвенная болезнь желудка и 12-перстной кишки, камнеобразование, экзема) не давала положительных результатов, а после введения в меню каши или киселя из проросшей пшеницы наступали резкие перемены, в дальнейшем — полное выздоровление. Ныне известно, что солод очищает организм от солей, известковых отложений, резко улучшается обмен веществ, сосуды становятся эластичными. Этим предупреждается гипертония, инфаркт миокарда, стенокардия, склероз, образование опухолей, исчезает головная боль и т. д. При точном и осмысленном лечении полностью омолаживается организм человека.

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

Рецепт приготовления солода в пищу. За 12-24 дня до его употребления в каком-то блюде пшеницу (из расчета взрослому ежедневно — 100 г, ребенку — 50 г) тщательно промывали водой, сливали ее, в мисочке оставляли столько воды, чтобы она была на уровне верхнего слоя зерна, но не покрывала его сверху. Мисочку надо расположить в темном месте, накрыв салфеткой, но не очень плотно. Когда пшеница прорастет, ее следует несколько раз промыть, размолоть на мясорубке и сразу же засыпать в сосуд с только что закипевшим молоком (по стакану солода и молока). Остудив в сосуде, прикрытом крышкой, кашу или (если взять побольше молока) кисель сразу подать на завтрак. Можно добавить сливочного масла. Солод нельзя готовить в алюминиевой посуде.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## От прабабушки

**Как исправить прогорклое масло.** Следует растопить испорченное масло и, сняв сверху пену, опустить в него хорошо обожженную корку хлеба, которая вберет в себя весь неприятный вкус и запах масла. Через две-три минуты корку следует вынуть.

**Как исправить затхлые яблоки.** От долгого лежания в погребах яблоки и другие ароматические плоды приобретают неприятный запах и становятся невкусными. Испорченный вкус можно исправить, если пересыпать яблоки или любые другие плоды высушенными цветами бузины и, что еще предпочтительней, резеды. Спустя 12-15 дней яблоки окончательно теряют свой залежалый вкус и посторонний запах и могут употребляться в пищу как совершенно свежие.

**Как бороться с домашними муравьями** без применения химических препаратов? Есть несколько народных способов: муравьи исчезнут, если смазать места их обитания обыкновенным подсолнечным маслом. Такой же результат можно получить, посыпав на их пути ромашку аптечную или махорку.

КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

## Сегодня — Конон огородник

Перебирается парниковый грунт, замачивают семена капусты и помидоров для высева в закрытые парники. Обновляют и готовят парники: "Конон на огород позвал". На Конона Градаря начинай копать гряды в огороде.

XXX

Стратификация семян. Это один из приемов их предпосевной обработки, обеспечивающий наиболее благоприятные условия прорастания. Семена хранят во влажном состоянии (в субстрате — песке, опилках, мхе-сфагнуме) при невысоких плюсовых (3-5 градусных) температурах. Продолжительность ее неодинакова у семян различных растений.

XXX

Ранний прилет журавлей — ранняя весна. Если рано прилетят турпаны (красные утки) — к весеннему теплу. С первыми приметами оттепели крестьяне зазывали, кликали весну к себе в гости. В первый теплый день выворачивали наизнанку шубу, показывали ее солнышку, встряхивая и приговаривая: "Сожги, солнышко, зимний холод".

● ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Як жонцы дапячы?

Дзень быў звычайны і, здаецца, нічога не прадказвала бяды. Жыхар в. Размеркі, 58-гадовы Аляксей Сямёнавіч Траццяк ранкам быў у добрым здароўі і, бадай, выдатным настроі. Каб падоўжыць гэтае замілаванне жыцця, удзень прыкупіў ён у мясцовым магазіне бутэльку гарэлкі, а к вечару яе выпіў. Ад «прынятага на душу» моцнага напою неяк адразу пабачылася жыццё Аляксею Сямёнавічу у самых што ні ёсць чорных фарбах. А тут і жонка з'явілася на парозе хаты, і гаспадар адразу ж успомніў пра нямыты посуд і ўсе астатнія «крыўды», прычыненыя яму. Паміж імі завязалася спрэчка, але яна цягнулася нядоўга, бо жанчына вырашыла лепей зысці з дому прэч, каб пазбегнуць лішняй сваркі. Не стрымала яе нават і тое, што муж услед прыгразіў, што болей яна яго жывым не ўбачыць.

Жанчына пайшла, а першае, што тут жа прыйшло ў галаву Аляксею Траццяку, дык гэта атруціцца газам. Падумаў крыху і пачаў ажыццяўляць свой намер: прыцягнуў у спальны пакой газавы балон. Аднак нешта не спяшаўся ён адкруціць вентыль і выпусціць з балона атрутны газ. Адставіў балон, прысеў на ложак і закурыў. І тут раптам ці то дзённая стомленасць дала аб сабе знаць і зморыла яго (а працуе ён у будаўнічай брыгадзе калгаса імя Леніна), ці то выпітая гарэлка пачала дзейнічаць... Прылёг небарака і адразу ж заснуў...

Прачнуўся Аляксей Сямёнавіч ад моцнага болю, спахапіўся і ўбачыў, што гарaць пасцельныя рэчы і апранутыя на ім штаны. Тым не менш, з апечанымі нагамі здолеў Траццяк прынесці яшчэ два вядры вады і паспрабаваў патушыць пасцель, ды не тут то было. Агонь не паддаваўся, а наадварот набіраў моцы.

Аляксей Траццяк сам не ведае, чаму, але пасля гэтага ён, нібы маленькі хлопчык-шкоднік, уцёк з дому і схаваўся ў хляве. Полымя між тым разгаралася і ў хуткім часе пажар выявілі суседзі. Яны і выклікалі пажарных. На момант іх прыезду полымя ўжо на ўсю моц бушавала ў спальным пакоі. Пажар ліквідавалі, хоць ён і паспеў нанесці сям'і Траццякоў немалыя страты. Сам жа віноўнік здарэння, падпальшчык-самагубца з-за сваёй п'янай неахайнасці пры курэнні ў ложку атрымаў апёкі 2-й ступені галеняў абедзвюх ног. Але не толькі з медыкамі давялося сустрэцца ў той вечар А. С. Траццяку, а і з прадстаўнікамі праваахоўных органаў.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС*
*Івацэвіцкага раёна.*

# Дзесяць лязоў

У час вайны мяне, тады яшчэ падлетка, немцы ўзялі працаваць чыгуначным рабочым на станцыю Бяроза-Картузская. І вось недзе 6 ці 7-га кастрычніка 1943 г. недалёка ад станцыі партызаны спусцілі пад адхон пасажырскі цягнік. У нашу вёску адразу ж заявіўся карны атрад, каб знішчыць жыхароў, але камендант (у вёсцы была камендатура) не дазволіў гэта зрабіць. Маўляў, тут жывуць сяляне, працаўнікі, а цягнік узарвалі бандыты, што хаваюцца ў лесе.

Тым часам усіх рабочых, і мяне таксама, тэрмінова сабралі і адправілі на месца здарэння рамантаваць чыгунку. Ад сваіх сяброў я чуў, што пасля такіх работ яны прывозілі дамоў такія-сякія рэчы, якія знаходзілі ў пашкоджаных вагонах. Таму і сам вырашыў скарыстацца становішчам. Залез у адзін з вагонаў, убачыў чамадан і, запусціўшы туды руку, дастаў упакоўку з дзесяццю лязамі.

Толькі паклаў яе ў кішэню, як пачуў вокрык панямецку: "Што ўкраў?". У дзвярах вагона стаяў малады немец з пісталетам у руцэ. Давялося мне вымаць з кішэні свае насоўку, калоду карт і ўкрадзеныя лязы. Немец падвёў мяне да акна, паказаў на бліжэйшы пагорак. На ім ляжалі тры загінуўшыя гітлераўцы, якіх я не заўважыў раней. Відаць, чамадан быў аднаго з іх. Немец вылаяўся, загадаў чакаць яго ля вагона, а сам пайшоў за чыгуначным паліцыянтам.

"Што рабіць? Расстраляюць!" — зашчымела ў галаве. Я кінуўся да нашага майстра. Ён хоць і быў здраднікам, але ўсё ж выратаваў мяне — параіў схавацца ў дрызіну, што мелася ісці на станцыю. Я так і зрабіў: забіўся ў нейкую шчыліну і заціх. Чуў толькі, як хадзіў той немец з паліцыянтам і пытаўся: "Во кляйне? (Дзе малыш?)".

Колькі раз пасля таго думаў сабе: "Навошта я браў той пачак з лязамі?" І сорамна нават сёння. Вось як мала каштуе часам чалавечае жыццё — усяго дзесяць лязоў.

*В. ПЕЧКО,*
*жыхар г. Бярозы.*

● КРИМИНАЛ

# Берегись автомобиля

22-летний водитель "Ауди" видел, что идущий навстречу "КамАЗ" совершает поворот. Надеясь на дисциплинированность шофера грузовика, он спокойно ехал и неожиданно врезался машиной в "КамАЗ". Виновником аварии оказался водитель "КамАЗа", который не пропустил "Ауди". Результат трагичен: парень погиб, его спутница в больнице с тяжелой травмой.

Как показывает статистика последнего времени, жертвами аварий становятся именно молодые люди.

*П. НАГНИБЕДА.*

● УЛЫБНИТЕСЬ




# Торговое самоубийство

— Скажите, это мне померещилось, что там на ценнике сто рублей?
— Это не сто, вам померещилось.
— Спасибо, а что там написано?
— Там написано — семьсот тысяч.
— Не сто?
— Не-ет, написано — семьсот.
— Семьсот за кило?
— За пол. За кило — два миллиона.
— То есть как? Кило только в два раза больше, чем полкило.
— Это вес, а у цены меры нету.
— Сорок граммов, пожалуйста.
— Мы сейчас не отпускаем.
— Почему?
— Меняем цену.
— И сколько же будет?
— Один миллион.
— Полкило?
— Сорок граммов.
— А револьвера застрелиться у вас нету?
— Есть. Десять миллинов.
— А один раз выстрелить?
— Двести тысяч рублей. Если со своим патроном.
— А с вашим?
— Шестьсот.
— У меня не хватает.
— Значит, придется жить!



**ПОДПИСКА — 98**

**Продолжается подписка на "Газету для вас" на второй квартал 1998 года.**

**Газета выходит два раза в неделю: в среду и субботу.**

**Вас ждут в любом отделении связи Березовского, Ивацевичского и Барановичского районов до 25 марта.**

**Цена газеты: на месяц — 8 тысяч, на два — 16 тысяч, на квартал — 24 тысячи рублей.**

**ИНДЕКС издания 63834.**




Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 17 сакавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.




Тыраж 1100.
Заказ 769.